# СВЯТОЧНАЯ САМОТА

На беластоцкім аўтавакзале
святочная самота.
Залатая манета сонца
хаваецца за гарызонт –
білет развітання з горадам.
З вакон аўтобуса гляджу кінастужку
штораз больш родных краявідаў.
Чым далей, тым бліжэйшыя сэрцу
нашыя лясы,
беларускія вёскі,
залатыя купалы цэркваў.
У вокнах аўтобуса вецер свой.
Змяркае забыты свет.
Вітаюся з вясковымі хатамі,
з родным тварам маці-хаты,
шчаслівы, што бачу,
што чую
родныя пяшчотныя словы ў дзвярах...
Даўно я не быў тут.

## БЕЛАЯ ДАРОГА

За вокнамі халоднай вясны
самотны вецер песеньку спявае.
Доўга не з’яўляецца крылаты сон.
У тупаце дажджу
туга прыходзіць начамі.
“Ці стрэнемся яшчэ калісьці?” –
сэрца ў чакання пытае.
Струны душы серэнаду іграюць:
“Ці помніш лясную дарогу,
пасланую пярынай суботняга снегу,
дрэвы на палатне вясковага краявіду,
вышытыя далікатным інеем,
калі вяртаўся дахаты
рыгораўскім лесам?
Пад занавескай ночы адчуваў каханне.
На вуснах ад свету
шчыры пацалунак гарачы,
пасланы на развітанне,
смех вачэй дзявочых...
Ці загоіць лёс сэрца рану,
Ці вернеш мне веру ў любоў, каханая?”

## БЕЛАСТОЦКАЯ ВОСЕНЬ

Каляндар паркавых дрэў
губляе лісты даджлівых дзён.
Восень – пара тратуараў, вершаў,
якія распісвае сентыментальны час
цёплымі вобразамі ўспамінаў лета,
промнямі  хвілін няздзейсненай любові.
У песнях ветру хаваю
адзінокія крокі дажджу,
акорды душы гітары.
Уцякаю ў свет маладосці,
каб запрасіць ў госці паэзію.
Часам сустракаю лісты спагады,
якія падаюць далонямі сяброўства.

## У БЕЛЬСКУ

Ізноў я ў Бельску.
У Міхайлаўскай царкве
затрымаўся час у малітве.
Ад нашых продкаў
яснае святло свечак
супакоем напаўняе храм.

У Бельску на аўтавакзале
урачыста-белая цішыня,
як першы снег на тратуары.
Успыхвае маланка фотаапарата
за шчаслівы вобраз маладажонаў –
на шэрым фоне аўтавакзала.

У Бельску амаль як дома –
паветра пахне роднай мовай.

***

Я шукаў цябе
у загонах радкоў, агародаў, санетаў,
п’яна закаханых наіўных паэтаў.

Я шукаў цябе
у мелодыях салодкіх песень,
адзінокіх кропляў вераснёвых дажджоў
-бардаў.

Я шукаў цябе
у натоўпе шумных мурашнікаў вуліц
горада, наканаванага лёсу.

А ты мяне знайшла
на скрыжаванні промняў, бляску
ўчарашняга травеньскага сонца.

***

Цалавала так прыгожа і нявінна,
як нясмелае сакавіцкае сонца
дакранае вуснамі промняў
халодную ад сцюжы зямлю,
на каторай тапіўся снег нездзяйснення.
Карміла мяне далікатным дотыкам,
як галоднага бяздомнага сабаку.
Хачу вярнуцца да нашых дзён –

калі з позірку,
пацалункаў,
дотыку
мы елі хлеб нашага кахання.

Я чакаў апошняга цягніка да сэрца,
я аддаў апошні грош свайго даверу,
веруючы, што ім даеду
да зацішша тваіх рук
і разам распалім вогнішча,
складзенае
з полымя паяднання дзвюх душ,
з нецярплівай музыкі двух сэрцаў,
са спалучэння двух гарачых цел.
А сталася інакш...

## ДАХАТЫ

На возе дваццаць першага стагоддзя
еду на свята сустрэчы бацькоў.
Вязу падарункі радасці сваёй.
Падзялюся імі з роднымі
пры стале бацькоўскага даверу,
на абрусе матчынай спагады
палажу хлеб дзедавай спадчыны.

## ЦІШЫНЯ

Можа я не любіў цябе...
Але дзяліўся словам.
Ты, як старэйшая сястра,
глытала  маю мову.
І сварыліся-дзяліліся
салодкім шакаладам-кавай,
даўно дружбы забыліся.
Мо гэта ўсё было забавай?
І магічныя  хвіліны
людскіх узлётаў-слабасці,
новых пошукаў-чаканняў
заўжды кончыліся расстаннем?
Так баліць мне душа...
Такое сумнае здарэнне!
Абое – як дзеці месяца,
закаханыя ў сабе
да канца вобразу люстра.
Не хапіла нам сну,
а мо адвагі на тое,
каб накарміць сэрцы...
О, здзяйсненне залатое!

***

Даць камусьці шанец –
на патушаным попеле учарашняй любові
распаліць другі раз вогнішча сям'і.

Кожны любіць салодкі мёд
з першым малаком нявіннага шчасця.
Але на стол штодзённай долі
жыццё для дзіцяці кладзе чорны хлеб
і горкую соль праўды.

## У РОДНАЙ ХАЦЕ

Ізноў я ў роднай хаце
пад бляскам Пачаеўскай іконы.

Каля акна стары гадзіннік
мерае ўсё маладыя гадзіны.
Мае дзяды з партрэта
спакойна глядзяць на гэта.

А тут гісторыя пішацца
кожным промнем успамінаў,
так блізкіх, як душа хаты.

## ДЗЕЦІ МЕСЯЦА

Нашыя словы – гэта
паэма пра каханне.
Мае лісты да вясны, кветак,
як твае ліпеньскія слёзы.
Мы – дзеці поўні,
зразумелыя думкам сваім.
Спаткаліся ў сне
вясны кахання.
Размыліся ў сакавіцкім тумане
непапраўных дарог лёсу.

## НАЧНАЯ КАЗКА ДВУХ СЭРЦАЎ

На возеры маўклівай прагнасці
лодка хвіліны даплывала
да ранніх берагоў гарачых вуснаў,
спалучаных вадаспадам адданасці.
Ты здалася купальскай вядзьмаркаю,
начным ангелам, што зляцеў з нябёсаў
і даў адзінокім сэрцам два лёсы.
Моц поўні, ап’янелай віном,
яе чароўнасць дапівае світанак.
Чаму так коратка трывае вечнасць?

## СНЕЖАНЬСКІ ЗАХАД СОНЦА

Стары дом ў вёсцы маёй –
гадзіннік б'е трэцюю гадзіну,
я чытаю кнігу дзяцінства,
на двары белы-белы снег,
серабрысты мароз.
Хаты вясковых дахаў
купаюцца ў снежаньскім захадзе сонца.
Пад нагамі хрумсціць снег.
Старая яблыня спіць зімовым сном.
На даху хлява срэбныя ледзяшы,
якія п'е шэры плот-сусед.
У промнях зімовага сонца
гараць голыя дрэвы саду.
А я, шчаслівы бясконца,
нясу бярэмя дроў у хату.

## НОЧ КУПАЛЫ

Нічога не гавары,
адгарні свае валасы славянскія,
хай пачую крык
начной птушкі.

Нічога не гавары,
хай маўчанне слоў
ператворыцца ў мелодыю сустрэчы,
ціхі шэпт.

Нічога не гавары,
не чакай  світання.
З нецярплівых слоў чакання
спляці вянок на зары.

## ПОЛЮСЫ СЭРЦАЎ

З жамчужын вуснаў выпускай кроплі
пачуцця.
Хвіліна, у якой абое існуем – прыгожая.
Магніт паразумення душ прыцягвае полюсы
сэрцаў,
а не аддаляе штодзённы свет.

Знайсці цябе ў цяжкім часе
тое ж самае, што выйграць падарожжа
вакол  свету.

***

Разлілася святочным сонцам восень.
Па вясковай светлай вуліцы
пагодлівае неба плыве, як човен,
частуе нас дарамі верасень,
грушы ў садзе залацяцца,
яблыні ад ураджаю ўгінаюцца,
пахне дзікім хмелем плот суседа...
На вёсцы паэтычны спакой –
гэта восень дае нам
лірычна-сялянскі настрой.

## ЗДЗЯЙСНЕННЕ

Калі сэрцы гавораць,
калі шчасце плыве,
калі ў абдымках маіх тонеш,
то надзея жыве,
што каханнем пераможам кожны дзень
і не будзе дажджоў адзіноты,
у сэрцы будзе вясной колер
ясна-сіняга бэзу цёплых слоў тваіх,
прысняцца цёплыя вобдымкі вясны,
якая раздобрыцца
і рассыпле праменні яркіх сваіх дзён.
Знікнуць самотныя цені,
будзем разам – я і ты.

## КАРАЛЕВА ЗІМЫ

Яснай пярынай снежных сноў
зіма атуліць зямлю,
у санях ноччу прымчыцца вецер-конь.
Пад'едзеш ты, каралева зімы,
цэлая выкупаная ў іскрыстай сукенцы,
бляску інею зор серабрыстых.

З ветру адчытаю
даўнюю тугу.
Сама ведаеш, які далёкі наш шлях –
не адна ноч,
не адзін дзень дзеліць  нас.
Голас твой – спеў жаваранкаў любові.
Тысячы кіламетраў узляціць рэхам вясны,
электронных метафар слоў, свет
з'яднае нас у празрыстым сне.
У блакіце лёсу неба
залатымі літарамі запісаныя нашыя ім'ёны,
што вернуцца, як буслы на Благавешчанне
сэрц.

Чаканне –
упакорванне шчасця.
А ўчарашнія адзінокія ночы

рассвятляюцца промнямі нашай раніцы.
Хай тройка гоніць далёка.
Яе вятры-коні нясуць удалеч
чаканне шчасця – цярпенне.

# МАЛІННІЦКАЯ ВОСЕНЬ

У нашай вёсцы нічога не змянілася.
Сонца за дах хаты зачапілася.
П’ю ваду з калодзежа.
Яблыня як дзеўка прыгожая.

Натапыраныя пожні палёў
ляніва пазяхаюць ветрам,
дым карычневага бульбянішча
над спакойнай вераснёвай зямлёю,
гучна плывуць гусі чарадою,
вісіць пагодлівага неба чыстая міска.
На вёсцы пахне вячэрай
варанай у печы бульбай,
акрашанай смачнымі скваркамі,
да таго воблака малака кіслага.
За вёскай жаласную песню заводзяць
каровы-бабулі.
А мне добра ля  таты і мамы –
вячэра, восень і наша старая хата.

Па старых сцежках дзяцінства прайдуся,
мінулае паўспамінаю,
старой восені музыку вёскі ўзгадаю.

# МІНУЛАЯ ВЯСНА

Сёння на вуліцы побач
Зноў міма мяне прайшла мінулая вясна,
надалей маладая, какетлівая, малалетняя.
Яе абыякавы погляд на даляглядзе
растаяў у шэрым натоўпе.
Стаў я табе чужы і далёкі,
а нядаўна родным сонцам...
А сёння ў абыякавым
моры чужых людзей
таплюся, як папяровы параходзік.

Няварта ліць жалю
мінулым вясновым дажджом
на струны сэрца свайго.
Яшчэ тваю адзінокую душу
агрэе сонца здзяйснення.

***

Не дачакаюся
нашага першага спаткання,
тваіх шчырых, як неба,
вясёлак вачэй, яркай усмешкі.
Месца свайго на радзіме не знайду.
Шчасце маё не па дарозе ідзе,
аднак там, дзе лета,
там ты жывеш,
там найбліжэйшыя дні вясны.

Ты – дыямант бліскучых вачэй,
шчокі як воблакі белыя,
як ружы чырвоныя,
што ў агні ўсходу гараць.
Голас твой – ангела спеў
узносіцца высока да неба,
як жаваранак, што прыносіць
світанак пагодлівай вясны.

## ВЯСНА Ў ДАВІДОВІЧАХ

Свежаскошаная трава
дурманіла вясновым вінoм,
сямейнай казкай шчасця,
наіўнай дзіцячай баладай вясны,
матчынай гасцінай шчырага застолля,
бацькоўскім рытмам у полі.
Мы стаялі на гасцінцы кахання,
выбітага цвёрдымі каменямі надзей.
Пад вокнамі хатаў плыло
мора салодка-сіняга бэзу.
Я адплываў на траве
у кнігу шчасця, промняў сонца,
захаду травеньскага дня...
Я вырваўся з акіяна турбот
на пару хвілін спакойнага свету.

## ПАЦАЛУНКІ

Сплеценыя касамі рук,
да берагоў вуснаў
дакранаем неба.
Вадаспадамі пацалункаў
абмываем імгненні,
забываем пра хвіліну,
што яднае нас,
каб нагадаць сабе
што каханне існуе,
як гарачае сонца,
як вецер, што авявае
каляровую сукенку
у квецці вясновых садоў.
Адплываем у мрою сноў.

# ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

На далоні цэнтра горада, жыцця,
сустрэліся два адзінокія сэрцы,
два вясёлыя сонцы
рассмяяных шэрых вачэй.
Твая ўсмешка рассыпалася каралямі
беласнежных жамчужын зубоў.
Мы доўга маўчалі ў полымі захаплення,
агнёў свячэй вячэрняга кафэ.
Потым наша размова паплыла
прыемнай ракою мелодыі джазу.
Твае цёплыя словы пахлі
араматам ранняй кавы,
што прабудзіла ўва мне захапленне.
Я затрымаўся ў люстрах твайго погляду,
я адчуваў жывую праўду
нашых наступных сустрэч.

## ДОБРЫЯ ЗОРКІ

На цёмным небе
гасне чалавечае жыццё.

У маіх вачах бабулька
Манька Самасюк-Буйнюк,
што благаславіла мяне крыжам на дарогу,
Тонька Семянішына,
што малітвай лячыла мае думкі.
Добразычлівы, пагодлівы
твар суседа дзядзькі Толіка,
што з Кляшчэль вяртаецца дахаты.
Шчыры твар яго жонкі,
маўклівай цёткі Олькі,
што добрым словам мяне вітае.
Намоляныя вочы
цёткі Макрэні,
якая вяртаецца з царквы,
чую вясёлы голас
дзядзькі Міколы Крупы.
Гэта ён вітаецца з бацькамі.
Сустракаю жыццярадаснага дзядьку Лёньку,
які імчыць на маторы
на поле даіць кароў.

І бачу ясную зорку
дзеда Кірыла –
чую хрыплы голас яго,
якім вітаецца з маім бацькам.
А мая бабуля Марта Несцярук-Міранчук
адплыла спакойным сном ужо.

Усе мы калісці спаткаемся
на цёмным небе зорнай ночы.

Будзем голыя-голыя,
як нованароджаныя дзеці.

## ТАБЕ

Песні на гітары кахання –
ім верныя ўночы
твае вочы –
калышуць мой верш да рання.
Кахаю дні і ночы,
каралі сакавітых вуснаў дзявочых,
вясёлыя зоркі вачэй шэрых,
чароўнага сонца на твары дня.

***

Адной хвілінай,
адным словам,
адным жэстам,
адным успамінам
будзіш ва мне іскру надзеі
адчыніць твае дзверы душы,
праз каторыя выйду з лабірынту суму
і ўвайду праз адно слова,
высылаючы промні з даўніх гадоў.
Прабуджу ў сабе добры свет
добрых мараў,
добрых дні,
добрых здарэнняў,
дзе дрэмлюць сны,
як іскры па вогнішчы з даўніх гадоў,
каторае яшчэ не раз у сэрцы разгарыцца.

***

Праз адкрытыя самотай
вокны апусцелай хаты маладосці,
вецер вераснёвай тугі,
штодзённы вячэрні госць,
гартае вершы ў шуфлядзе ўспамінаў.
Каханне маладых паэтаў
раскрывае сакрэты пажоўклых лістоў,
пісаных сонцам вясновых дзён,
кропелькай травеньскай расы.
Рэха нікім не пачутых песень сэрца
ў бяззорнай рэчаіснасці ночы
паліць крылатыя спадзяванні.
З попелу паўстае фенікс нянавісці,
нішчыць бясцэнныя пачуцці.
Ты адплачваеш фальшывай манетай літасці.
А я памёр.

Душа-кватэра, адкрытая дзвярыма наіўнай
веры,
апранутая ў промні заўтрашняй вясны,
каб нарадзіцца п’яным вiном
агародаў доўгіх чаканняў,
чым даўжэйшым,
тым мацнейшым пачуццём ажывае.

Неспадзявана распальваецца вогнішча
радасці.
Акно шчасця –
заўсёды празрыстае шкло...
або бяздомны туман тугі.

## ЛЁС

Мой лёс –
люстра маіх дзён.
Паміраю і нараджаюся
ў бляску і ценю кожнай хвіліны,
уваскрасаю ва ўсмешцы сэрца,
заміраю у слязе пакуты душы,
аднак любю цябе, маё жыццё,
зманлівае і спакуслівае,
як натуру маладой жанчыны.
А за кожную кроплю шчасця
ўзношу тост спадзявання,
выпіваю нагбом
за новыя лепшыя дні,
якіх варта чакаць
і варта жыць.

## КРЫК САМОТЫ

Калі крык самоты ў сабе пачую,
калі ажыве тое, што не выпалілася,
калі зыйдуцца адна іскра з другой
у полымя, агеньчык пачуцця,
верныя сэрцы сагрэюцца святлом.
Гэта буде святло вымаленай з самоты веры,
складзенае з супольнай праўды жыцця.
Не будзе лічыцца плывучы час,
гэта будзе знак,
што я не памёр.

Калі з радкоў верша,
слоў сэрцу верных,
з сумных самотных
кропляў вячэрняга дажджу
намалюеш мой звычайны партрэт
на вуліцы штодзённага вечара,
пачую нясцерпныя крыкі сэрца,
веры, – што азірнуўшыся назад,
не ператваруся ў соль цярпення.
І цёплыя шчырыя словы
стануцца ценем самоты.

***

Стараемся маліцца Богу,
хаця цяжка паскладаць
з рассыпаных учарашніх лістоў жалю
дыван малітвы слоў вясёлкавых,
на алеі дня заўтрашняй восені рассцелены,
што да заўтра завядзе простай дарогай.
Што ж, пачуццяў попел папяроса спаленага
варты,
кінуты на зямлю, прытаптаны, мёртвы...
Нікому не патрэбны крык нямкога,
як ветразя палатнянае сэрца раздзёртае,
якога вятры правяваюць на ўсе бакі.

Усё шукаю тую веру, натоўпам забытую,
як лясную каплічку ў гушчары думак
пры зарослай сцежцы праўды.
Можа, яна дапаможа выйсці з лабірынту
болю.

## ДЗЯЦІНСТВА

Дзяцінства маё светлае,
як сонечная раніца траўня.

Дзяцінства маё нявіннае,
як чыстая раса вясновая.

Дзяцінства маё звонкае,
як віртуозны спеў салаў’я.

На яблыні ля хаты старой
усё перацвіло-прамінула,
птушкай крылатай праляцела
ў вырай добрых успамінаў
так хутка,
так нечакана,
як бы побач.

***

Сёняшні свет
не разумее паэтаў.
Не маем часу
спыніць машыну манетных спраў.
Народ глядзіць ў штодзённае
акно аблуды ды фальшу,
захаду сонца праўды,
уваскрашэння вобразаў ночы.
Кормімся апошнімі промнямі даверу,
які праглынае цемра вечара расчарвання,
Глядзім у акно зорак
чорнай славы чалавецтва,
адурманьваемся фальшывым бляскам
хвілінных успыхванняў
халодных маланак флешаў.
Крывавы захад сонца
малюе начную эпоху
шэрага дажджлівага заўтра.

***

У гэты час разгараецца духоўная вайна
паміж арміяй матэрыялістычнай
ідэялогіі заходняй зоркі глабалізацыі
і нязлічанай арміяй месяца ўсходу.
Гінуць салдаты мяккай душы,
што прайгралі атаку антыкультуры,
спакуслівых вобразаў чалавечага граху.
Прайграе фальклорная вопратка веры
айцоў візантыйскай праўды,
якіх не слухае ашалелы народ
у чарзе да новай святыні – граша,
насцеж адкрытай пустадушнай,
шырокай брамай straganów próżności.

## МАЛАНКА ПРАЎДЫ

З пустых ветрапрозвішчаў
прадаўцоў праўды святой,
на руках якіх застыла
праваслаўная кроў –
яны нам краіну будуюць
зусім самім сабе чужую,
у вопратцы глабалізацыі,
пад маскай містыфікацыі,
грамадства поўнай інвігіляцыі,
адвыславяналізацыі.
Хаваем свой сапраўдны твар,
каб не выявіць да канца
сну каляровага міражу,
толькі ўпарта верым ў тое,
што нам на талерцы пададзена
масмедыяў штодзённага рэстарана.
З вагі праўды адной шалі
топім учарашні свой жаль.

# ПАКОРА

Куды імчыш, нецярплівае чалавечае стада,
ад сцежкі нараджэння да аўтастрады смерці?
Чаго хочаш, чалавечая душа,
багатых слоў, што апранаюць цябе у вопратку
эгаізму,
спакуслівага бразгату манет залатога шчасця,
фальшывага цяпла, бляску маланак славы,
бурных воплескаў, зямной пашаны натоўпу,
што з музыкай сэрца замоўкнуць ноччу
расчараваннем,
калі лебядзіную песню праспявае гітара
сумлення?

Станем голыя ў зямной прыгажосці цела,
як дзеці пасля нараджэння –
бедныя ад зямнога раю краіны багацтва,
далёкія ад папяровых прызямных ідэалаў...

***

Жывём у палітычным часе –
кожны дзень як шахматнае поле –
чорнае або белае,
ніколі не шэрае.
У халадзільніку штодзённых спраў
марозіцца смаленская трагедыя.
У акне дня разгараецца
вайна ўсходу з захадам.
За жалезным занавесам
хворых стэрэатыпаў заходняй прапаганды
не бачым промняў ідэалогій усходу
Дастаеўскага
Гогаля
Горкага
Чэхава.
Каму патрэбныя рамантычныя рэвалюцыі,
купленыя за шэлест купюр,
што найгрываюць шарпаўскія танцы?
Свабодай не накорміш наступных
пакаленняў.
Гэта не хлеб, а агонь нянавісці да Айцоў
Святой Русі,
якіх промні малітвы Усявышняй праўды
амафорам пакрываюць лёс народаў...

Таму чытаю забытыя натоўпам
кнігі майго кірылічныга дзяцінства.

## ПОП-КУЛЬТУРА

Прадаўцоў фальшывых гісторый
купляе блазнаватае акно штодзённай
рэчаіснасці.
Спакуслівая ўлада вобразаў
вынішчае чыстыя вытокі душы чалавека,
узносіць на п’едэстал бездухоўнасць
герояў штодзённага жыцця,
запальваючы святло зманлівых зорак поспеху.
Ад штодзённага хлуслівага пяску пустыні поп
-культуры
высыхае крыніца паэтычнага слова.
Натоўпы ідуць напрасткі сцежкай
да бруднай ракі штодзённых поглядаў,
у якой гасяць смагу ведаў
скаламучанай ракой поп-культуры.
Голад культуры заспакойваюць
каля будак-сталовак нізкай культуры.

На дыеце найвышэйшай паліцы мастацтва
не накорміце душы высокімі пачуццямі.

***

Не ўвайду ў гісторыю –
агонь забыцця спаліць мае вершы,
вецер дня развее попел памяці –
мае смяротныя словы.

Не ўвайду ў гісторыю
крыклівай царыцы поп-культуры,
скандальных вобразаў граху,
абыякавых маладых душ.

Не ўвайду ў гісторыю –
застануся па-за звонам манет,
з верай праўды нашай.

## ЧАРНІЛЬНАЕ НЕБА

З непакоем узносіцца мой погляд
на чарнільнае неба,
залітае дажджавымі хмарамі –
ізноў хлусілі фальшывыя пракокі,
што ўчора прадбачвалі шчасце.
З парэзанага паветранага шара
брытвамі спутнікаў,
праколатага іголкамі самалётаў, неба
плача неўміручым болем,
нястрымным вадаспадам летніх ліўняў.

Людзі хочуць быць разумнейшымі
за курыц-матуль...
Пагляньце на атрамантавае неба,
малітваю пакорных дзіцячых вачэй
вычытайце жаль адзінокага неба.

# ЗМЕСТ

## КАХАННЕ

## СВЕТЛАЯ ТУГА

